

# Ніва



ГОД I № 3 БЕЛАСТОК, 18 САКАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.



## Цэнтральны Камітэт ПЗПР
## Дзяржаўная Рада і Ўрад ПНР

## ДА ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ ПРАЦЫ, ДА ПОЛЬСКАГА НАРОДА

Цэнтральны Камітэт Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі, Дзяржаўная Рада, Урад Польскай Народнай Рэспублікі, з глыбокім сумам паведамляюць увесь народ — рабочых, сялян, інтэлігенцыю і моладзь нашай краіны, што 12 сакавіка ў 21.30 гадзін пасля цяжкай хваробы памёр у Маскве І Сакратар Цэнтральнага Камітэта ПЗПР таварыш Балеслаў Берут.

Адчувальная гэта страта для польскага рабочага класа, якога таварыш Берут быў нязломным змагаром, для ўсяго працоўнага люду, якога быў верным сынам, для народа, за свабоду і лепшую будучыню якога змагаўся ад маладых год праз усё сваё жыццё.

Малады друкар — стаў у рады барацьбітоў за справу соцыялізма. Гартаваўся як дзеяч ППС-Левіцы ў барацьбе з царскімі захопнікамі і нямецка-аўстрыйскімі акупантамі.

Ад першай хвіліны ўзнікнення Комуністычнай Партыі Польшчы стае пад яе сцягам.

У міжваенных гадах непераможаны праследваннямі і шматразовым турэмным заключэннем, з запалам і аддана́сцю гуртуе рабочых і працоўных сялян, інтэлігенцыю і моладзь да барацьбы з капіталістычнымі і памешчыцкімі ўрадамі, за хлеб і працу, за дэмакратычныя свабоды, мір і народную ўладу. Як дзеяч міжнароднага рабочага руху прымае ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе братніх партый.

У дні найцяжэйшых змаганняў нашага народа з гітлераўскім акупантам імя таварыша Берута — „Тамаша" неразлучна вяжацца з гераічнымі подзвігамі Польскай Рабочай Партыі, якой быў адным з заснавальнікаў. Таварыш „Тамаш" з'яўляецца арганізатарам і старшынёй Краёвай Рады Нарадовай — першага дэмакратычнага прадстаўніцтва польскага народа, змагаючагася за нацыянальнае і грамадскае вызваленне.

Існаванне Народнай Польшчы непарыўна звязана з працай таварыша Берута — прэзідэнта, старшыні Рады Міністраў — старшыні Агульнапольскага Камітэта Народнага Фронта — І Сакратара ЦК ПЗПР. Таварыш Берут запісаўся ў памяці народа, як нязломны змагар за ўмацаванне народнай улады, за межы Польшчы на Одры і Нысе, за з'еднанне рабочага руху на аснове марксізма-ленінізма, за адбудову краіны, за развіццё гаспадаркі і культуры нашай Радзімы, за ўзмацненне становішча Польшчы ў свеце, за соцыялізм.

Гарачы патрыёт — быў барацьбітом за братэрскую дружбу Народнай Польшчы з Савецкім Саюзам, з усімі соцыялістычнымі краінамі, барацьбітом за міжнародную салідарнасць людзей, нязменным змагаром за мір і дружбу паміж народамі.

Рабочы клас, увесь народ, зналі яго як перадавога дзеяча партыі — правадыра іх працы і барацьбы. Партыя, якой служыў да апошняга подыху знае яго, як непахіснага воіна комунізма.

ЧЭСЦЬ ЯГО ПАМЯЦІ!

# ЖЫЦЦЁ І ДЗЕЙНАСЦЬ БАЛЕСЛАВА БЕРУТА

Год 1905. У царскай дзяржаве шырацца забастоўкі, дэманстрацыі і сутыкненні з паліцыяй. У сутарэнні Берутаў у Любліне, пры вуліцы Сероцэй, што раз часцей паяўляюцца нелегальныя брашуры і лістоўкі якія прыносілі Андрэй і Антаніна, брат і сястра Болеслава. Бацька ўважліва чытае іх. Трынаццаці гадовы Балеслаў патайком выносіць іх і чытае сваім равеснікам. Малы хлапец салідарызуецца з пралетарыятам Любліна. Дае доказ сваёй нянавісці да ворага кідаючы чарніліцай у партрэт цара, які вісеў на сцяне. Гэта быў сігнал да школьнай забастоўкі.

Калі выключылі яго са школы, працаваў мулярам, газетаносцам, звычайным работнікам. Канчаткова аднак вырашыў быць друкарам. Здольны юнак працуе лепш ад іншых і хутка вылучаецца. Праз увесь час малады Берут вучыцца ў рамесльным вучылішчы' Дзейна ўдзельнічае ў падпольных гуртках вольнадумніцкай моладзі. піша артыкулы ў маладзёжнúю газету „Вызваленне". У яго малой хатцы, збіралася рабочая моладзь. Хатка вельмі скромная, але было ў ёй многа кніжак.

У той час у Любліне дзейнічае многа нелегальных пляцовак, з якіх карыстае СДКПіЛ і ППС-левіца, з мэтай утрымання сталай сувязі з масамі і распаўсюджвания прагрэсіўных ідэй. У адну з такіх пляцовак — таварыства „Пшышлосць" — уступае Берут разам з групай сацыялістычнай моладзі.

Пачынае вельмі плённую работу, стаючыся непахісным барацьбітом за чыстату ідэй сацыялізма. Карыстаючы з больш поўгадовага свайго знаходжання ў Варшаве вучыцца ў „Вольнай Вшэхніцы". У той час нарастае хваля масавых забастовак і дэманстрацый, якія скаланаюць расійскай імперыяй.

Паміж рэвалюцыйнай партыяй СДКПіЛ і членамі ППС-левіцы, умацоўваецца цеснае судзеянне. Абедзве гэтыя партыі арганізуюць супольныя дэманстрацыі. Ад пачатку вайны 1914 года Балеслаў Берут прымае ўдзел ў антыімперыялістычнай прапагандысцкай працы сярод люблінскіх рабочых. Шукаюць яго царскія жандары. Пасля захопу Любліна аўстрыйскімі войскамі — абедзве партыі пастанаўляюць выкарыстаць кааператыўныя пляцоўкі для рэвалюцыйнай дзейнасці. Найбольш актыўным дзеячам ППС-левіцы ў люблінскім кааператыўным руху з'яўляецца Балеслаў Берут. З вялікім запалам пашырае сетку кааператыўных крамаў, арганізуе пры іх бібліятэкі і хаты — чытальні Арганізуе рабочыя гурткі, супроцьдзейнічае антынароднай рабоце пілсудчыкаўскай ППС.

А ў Польшчу даходзяць гістарычныя і магутныя словы дэкрэта Совета Народных Камісараў з 29 жніўня 1918 г. якія выразна гавораць аб праве польскага народа да поўнай незалежнасці і самавызначэння свайго лёсу... Балеслаў Берут атрымлівае цяжкія партыйныя задачы. У кастрычніку, лістападзе 1918 г. абедзве рэвалюцыйныя партыі СДКПіЛ і ППС левіца, выйшлі з падполля. Ствараюцца першыя пачаткі новай улады ў форме Рад Рабочых Дэлегатаў. Польская буржуазія разгортвае ліхарадачную дзейнасць з мэтай утрымання мас у паслухмянасці і стварэння ўласнага апарата прыгнёту. Берут з вялікай энергіяй удзельнічае ў арганізаванні мітынгаў рабочых, наведвае фабрыкі і заводы, выступае з прамовамі да рабочых, азнаёмлівае іх з сітуацыяй, заахвочвае далей арганізаваць Рады, сустракаецца ўсюды з глыбокай пашанай з боку рабочых.

Супольна з іншымі дзеячамі рэвалюцыйнага рабочага руху Берут набывае вопыт, з кожным годам стаецца больш сталым, больш ахвярным сынам свайго класа.

Калі ў снежні 1918 г. з аб'еднання СДКПіЛ і ППС-левіцы ствараецца Комуністычная Партыя Польшчы, Берут становіцца актыўным членам, выконвае цяжкія і небяспечныя заданні. У 1919 годзе Берут па загаду партыі, выязджае ў Дамброўскі Басейн. Наведвае шахты, металургічныя заводы і кватэры рабочых, выступае з прамовамі на незлічаных мітынгах і сходах. У рэзультаце ствараецца там густая сетка спажывецкай кааперацыі, якая з'яўляецца вялікай дапамогай у дзейнасці маладой комуністычнай партыі. Па нейкім часе вяртаецца Берут у Варшаву. Восенню, 1923 года Балеслаў Берут ізноў выязджае ў Дамброўскі Басейн, дзе вядзе незвычайна ахвярную работу, стварае адзіны фронт рабочага класа і арганізуе забастоўкі.

Цяжкай была гэтая праца, дзе роілася ад шпіцляў і правакатараў. У час сваёй дзейнасці ў Дамброўскім Басейне Балеслаў Берут быў шэсць разы арыштоўваны і палонены.

У 1927 г. за працу дзеля дабра народа быў палонены ў бэндзінскай турме.

Берут арганізуе навучанне вязняў пераважна шахцёраў і рабочых з Дамброўскага Басейна, чытае гісторыю рабочага руху ў Польшчы. Выпушчаны на пекаторы час, вяртаецца ў Варшаву, каб з новай энергіяй узяцца за партыйную працу. Многа месяцаў ёсць членам Сакратарыята КПП. Апасаючыся новай, на гэты раз шматгадовай турмы, партыйнае кіраўніцтва вырашае аб яго выездзе за граніцу.

Праходзяць гады пабыўкі на эміграцыі: Прага, Вена, Софія, Масква. Балеслаў Берут зараз-жа пачынае там працу ў радах міжнароднай арганізацыі рабочага класа. У вышэйшай навучальнай установе ў Маскве аддаецца навуцы над грамадска - эканамічнымі праблемамі, з напружаннем вывучае работы класікаў марксізма. У краіну вяртаецца ў 1931 годзе, калі Польшча перажывае гады крызіса. Партыя накіроўвае яго у рабочую Лодзь, дзе Балеслаў Берут, як сакратар Акруговага Камітэта КПП кіруе забастоўкай рабочых, якія вядуць заўзяты бой з капіталістычнай эксплуатацыяй. КПП-оўскі дзеяч у час фашысцкага тэрору не можа аднак доўга знаходзіцца на адным пасту.

Таму кіраўніцтва партыі вызначае яму іншае месца працы, якое мае вельмі важнае значэнне для барацьбы з фашызмам. Гэтым месцам была Міжнародная Арганізацыя Дапамогі Рэвалюцыянерам — МОПР. Былы вязень, рэвалюцыйны дзеяч, з сэрцам моцна адчуваючым ўсю крыўду і няспраўядлівасць вельмі надаваўся да гэтай працы. Задача была нялёгкая ў тагачасных умовах санацыйнага рэжыма. Трэба было пачаць працу ад асноў, знайсці людзей для дапамогі, кватэры на спатканні, пашырыць палітычную дзейнасць Таварыш „Вацэк" — такі быў тагочасны партыйны псеўданім Берута — навязаў пастаянную сувязь з турэмнымі камунамі, і даваў ім важныя і разумныя парады і ўказанні.

Пасля гітлераўскага перавароту санацыйны рэжым завастрыўся. Гэта аднімае у Берута магчымасць прымаць удзел у змаганнях супроць антынароднай палітыкі Пілсудскага і пілсудчыкаў, таму што ў 1933 г. праз дэфензыву яго адрываюць ад працы і замыкаюць у турму, а ў 1935 г. — асуджваюць на доўгагадовае турэмнае заключэнне. Аднак і тады ён не перарывае сувязі з рабочымі масамі. Пасля турмы ў Варшаве і Мыславіцах адседжвае прысуд у Равічу — катоўні палітычных вязняў.

У снежні 1938 года Берут пакідае турму ў Равічу і да верасня 1939 г. знаходзіцца ў Варшаве. Пасля захопу краіны гітлераўцамі перабіраецца ў Беласток, а па нападзе Гітлера на Совецкі Саюз, кіруецца у Мінск. У 1943 г. партыйнае кіраўніцтва кліча яго да краіны. Вярнуўшыся ў Варшаву Балеслаў Берут прымае актыўны ўдзел у выкоўванні праз кіраўніцтва ППР праграмных асноў і аддаецца справе пашырэння антыфашысцкага народнага фронта і згуртаванню рабоча-сялянскага саюза.

Совецкая Армія перамагала. Краіна з вялікай вераю адносілася да яе перамог, з усё большым давер'ем адносілася да Польскай Рабочай Партыі.

Марозная раніца 1 студзеня 1944 г. У памяшканні на вуліцы Твардэй ў Варшаве, адбываецца першае гістарычнае пасяджэнне Краёвай Рады Нарадовай.

Балеслава Берута аднагалосна выбіраюць на старшыню.

„Заданнем Краёвай Рады Нарадовай — гаварыў тады ў сваёй прамове Балеслаў Берут — гэта раз на заўсёды адабраць рэакцыйным банкротам магчымасць узяць руль улады і выступаць ад імя народа".

Многа намаганняў Балеслаў Берут аддае справе мацнейшага згуртавання народа. З вялікай энергіяй працуе над наладжаннем народных радаў.

Совецкая Армія, магутны саюзнік польскіх народных мас у вялікай бітве за нацыянальнае і грамадскае вызваленне краіны, набліжаецца да нашых межаў. 22 ліпеня прыходзіць доўгачаканая перамога. Вестка аб прыездзе ў Люблін і ўваход у састаў ПКВН Старшыні Краёвай Рады Нарадовай, хутка абляцела ўвесь горад.

Сын малазямельнага селяніна, рабочы па прафесіі, Балеслаў Берут быў верным сынам народа на кожным становішчы, на якім яго ставіла партыя і рабочы люд. Непахісны змагар за сацыялізм, праніклівы палітык, добры гаспадар краіны, прыяцель народных мас — вось такі быў Балеслаў Берут.

## ЛЕКАРСКАЕ ВЫЗНАЧЭННЕ працэсу хваробы і смерці БАЛЕСЛАВА БЕРУТА

Таварыш Балеслаў Берут у канцы лютага гэтага года хварэў на грып і запаленне лёгкіх. 11 сакавіка ўтварыўся завал сэрцавага мускула, а 12 сакавіка пры азнаках пашыраючагася сэрцава-сасуднага недамагання наступіла смерць.

Прафесар Н. Васіленка — член карэспандэнт Акадэміі Медыцынскіх Навук СССР,

Прафесар М. Фейгін — галоўны лекар па ўнутраным хваробам у лячэбніцы Міністэрства Здароў'я ПНР.

Прафесар А. Макараў — загадчык IV аддзела Міністэрства Здароў'я СССР.

## Паведамленне Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай Партыі Совецкага Саюза і Совета Міністраў СССР

МАСКВА. — Цэнтральны Камітэт КПСС і Совет Міністраў СССР апублікавалі наступнае паведамленне:

Цэнтральны Камітэт Комуністычнай Партыі Совецкага Саюза і Совет Міністраў СССР з глыбокім сумам паведамляюць, што 12 сакавіка ў 23,25 гадзін (маскоўскага часу) памёр у Маскве, пасля цяжкай хваробы (завал сэрцавага мускула) вядомы дзеяч міжнароднага комуністычнага і рабочага руху, вялікі сын польскага народа, I Сакратар Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі, Балеслаў Берут.

Цэнтральны Камітэт
Комуністычнай Партыі
Совецкага Саюза

Совет Міністраў СССР

## Спачувальная тэлеграма Ад ЦК КПСС, Совета Міністраў СССР і Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР

Дарагія сябры. Цэнтральны Камітэт Комуністычнай Партыі Совецкага Саюза, Совет Міністраў СССР і Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР выказваюць глыбокае спачуванне Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі, ураду і польскаму народу ў сувязі з напаткаўшым іх горам — смерцю I Сакратара ЦК ПЗПР, таварыша Балеслава Берута — вялікага сына польскага народа, выдатнага дзеяча міжнароднага комуністычнага і рабочага руху.

Смерць Балеслава Берута, вялікая страта для польскага народа, для народаў Совецкага Саюза, для вялікай садружнасці сацыялістычных краін, для працоўных мас усяго свету. У яго асобе Польская Аб'еднаная Рабочая Партыя і ўвесь польскі народ страцілі свайго выпрабаванага палітычнага кіраўніка і арганізатара барацьбы за пабудову сацыялізма. Выдатнае жыццё і слаўная дзейнасць Балеслава Берута застанецца натхняючым прыкладам у барацьбе за перамогу ідэй комунізма, якім аддаў усе свае сілы.

Цэнтральны Камітэт
Комуністычнай Партыі
Совецкага Саюза

Совет Міністраў СССР
Прэзідыум Вярхоўнага
Савета СССР.

## Цэнтральны Камітэт Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі

ВАРШАВА

З вялікім смуткам беларускае насельніцтва ўспрыняла вестку аб смерці Тав. Балеслава Берута, I-га Сакратара Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі.

З Імем Балеслава Берута звязана шматгадовая барацьба польскага рабочага класа за свабоду нашай Айчыны, за ўладу працоўнага люду і будаўніцтва сацыялізма ў нашай краіне.

На ўсіх этапах гэтай шматгадовай і цяжкай барацьбы рабочы клас заўжды меў вернага саратніка — беларускага рабочага і селяніна.

У гэтую цяжкую хвіліну запэўніваем Цэнтральны Камітэт, што яшчэ мацней згуртуем свае рады вакол Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі і Цэнтральнага Камітэта, што яшчэ болей умацуем дгужбу паміж польскім і беларускім насельніцтвам, што ўзмоцнім намаганні ў барацьбе за ўмацаванне гаспадаркі і абараназдольнасці нашай Айчыны, за перамогу міру і сацыялізма.

Галоўнае Праўленне
Беларускага Грамадска-
Культурнага Таварыства.




# Па совецкай БЕЛАРУСІ

*На вуліцы Комсамольскай у Мінску сем год назад пасаджана 30-гадовыя ліпы, прывезеныя з беларускіх лясоў.*

## Дзе быў непраходны „Нікар"

### Успаміны з пабыўкі ў Совецкай Беларусі

Поезд грукочачы калёсамі па рэйках падязджаў да Тэрэсполя.

— Даязджаем да граніцы — паглядзеўшы ў вакно — сказаў мой таварыш падарожжа.

Я глянуў у напрамку ўзыходзячага сонца. Там, за граніцай ляжыць вялікі Совецкі край; там беларускае Палессе, дзе мая старэнькая маці, брат і сёстры; дзе я радзіўся і жыў.

Вёску сваю — Юхновічы ў Шарашэўскім раёне, я пакінуў маючы 18 год. Гэта было ў 1944 годзе. Уступіў я тады ў II Польскую Армію, каб адпомсціць фашыстам за маю спаленую вёску і за ўсе мукі, якія цярпелі людзі Палесся.

Думкі плылі. Перад вачыма адна за другой праходзілі карціны з ваеннага жыцця: бой з фашыстамі на Вале Паморскім, бой пад Дрэзнам, дзе мяне параніла ў руку; пасля шпіталь, капітуляцыя фашыстоўскай Германіі. Па вайне я пачаў жыць і працаваць у Беластоку.

І вось пасля мінулых дванаццаці год, я еду ў Совецкую Беларусь, у сваё роднае Палессе — адведаць сваякоў і знаёмых. Як яны цяпер жывуць, як выглядаюць? Я часта ад іх атрымліваў лісты, у якіх пісалі, што пабудавалі гаспадарчыя будынкі, працуюць у калгасе, што жыццё на Палессі зусім іншае ад таго — якое было пры панскай Польшчы — лепшае і весялейшае.

Ды ці-ж можна ў лісце ўсё апісаць?

Поезд скрыгочучы тармазамі па калёсах, спыніўся на станцыі.

У вагон увайшоў афіцэр польскай гранічнай стражы і папрасіў у пасажыраў пашпарты да кантролі. Праз некалькі хвілін поезд рушыў і затрымаўся ў Брэсце.

Перад ўсім кінулася мне ў вочы брэсцкая станцыя. Абшырная, эстэтычна ўтрыманая зала з мармуровымі сценамі. Куды ні глянеш чыста і прыгожа.

І вось я еду аўтобусам да Шар[illegible]эва.

Калісьняя вузенькая пяшчаная дарога замянілася ў шырокую, асфальтовую шашу абсаджаную фруктавымі дрэвамі. Абапал шашы віднеюцца новыя, гаспадарчыя пабудовы Гэта ўласнасць калгасаў.

Мы часта мінаем вялікія ўпрыгожаныя табліцы, якія гавораць аб жыцці калгаснікаў.

Далей мы праязджаем ля месца, дзе калісь было вялікае балота — „Нікар". — Гэты вялікі, непраходны калісь абшар, стагоддзямі ляжаў невыкарыстаным. Цяпер у гэтым месцы калгаснікі маюць свае агароды. Растуць тут прыгожыя буракі, капуста і другая агародніна.

Аўтобус затрымаўся ў якімсь, як мне здавалася незнаёмым мястэчку. Усе пасажыры выйшлі з аўтобуса. Я сядзеў ні ведаючы — выходзіць ці не.

— Чаму-ж вы гражданін не выходзіце? — спытаў мяне кандуктар. — Гэта-ж ужо Шарашэва!

Я не мог надзівіцца, што праз 12 год так змянілася Шарашэва! Іду вуліцамі і не пазнаю іх. Новыя дамы, новы шпіталь, вялікі, некалькі павярхавы будынак сярэдняй школы, кіно, лесапільня, малачарня — гэта ўсё пабудавана па вайне.

З Шарашэва асталося 4 вярсты да Юхновіч, дзе жыве мая радня.

Падымаюся на ўзгорак, за якім спадзяюся ўбачыць сваю родную вёску. Сэрца маё забіла трывожна. Як выглядае цяпер мая вёска, ці адбудаваная таксама? Калі я адыходзіў ў салдаты, то з вёскі асталіся самыя папялішчы.

Узышоў я на ўзгорак, глянуў і... вачам сваім не веру. Стаіць зусім новая вёска.

Сеў я на камень ўсхваляваны і заплакаў ад шчасця. Калі падняўся і пайшоў да вёскі — ужо вечарэла.

У вёсцы спатыкаю жанчыну. Глянуў — гэта-ж мая цётка Анюта.

— Добры дзень — кажу — цёценька пакажы дзе жыве мая маці.

— Глянула на мяне — пазнала!

— А божа-ж ты мой, божа — гэта-ж ты, Рысек, кажа ўсхваляваная цётка. О, —гэта дык госць! Пытаеш пра маці? — а вунь там жыве, ў другім доме — паказала рукою.

Маці прыгатаўляла вячэру. Глянула на мяне і гаршок з бульбай упаў ёй з рук.

Як я вітаўся з раднёй цяжка мне апісаць. Было многа слёз, пацалункаў і радасці.

Ды і жыццё сялян маёй вёскі — цяпер зусім іншае. Калісь за санацыйнай улады жылі яны ў бядзе і недастатку. Абуваліся ў лыкавыя лапці, а калі хтось купіў храмовыя боты, то накладаў іх толькі на вялікае свята. Елі вельмі дрэнна, а часта вясною зусім нічога не было.

Ніхто ў ваколіцы не меў радыя. Школы былі толькі чатырохкласныя і то мала хто ў іх вучыўся бо дзеці скончыўшы 12 год ужо цяжка працавалі.

Цяпер у Юхновічах жывуць заможна.

Амаль у кожнага ёсць сваё радыё, веласіпед, а некаторыя маюць свае матацыклеты.

У калгасе некалькі год таму пабудавана яслі, медпункт, аптэку, кіно, клуб, 9-ці класную школу.

Маладыя людзі з вёскі Юхновічы маюць сваю прафесію, яны — камбайнеры, трактарысты, заатэхнікі, спецыялісты па жывёлагалоўлі.

Разам з развіццём калгаса, з паляпшэннем жыцця сялян, змяняецца псіхіка людзей.

Цяпер паміж насельніцтвам Палесся няма ніякіх супярэчнасцей. Усе чуюцца грамадзянамі Совецкага Саюза, усе на роўні чуюцца членамі адной вялікай сям'і.

І вось месяц маёй пабыўкі ў Совецкай Беларусі кончыўся. Успаміны яе астануцца ў мяне назаўсёды.

Расказаў Р. Касцюк
Запісаў В. БАРШЧЭЎСКІ

---

## Анталогія беларускай паэзіі

У сувязі з падрыхтоўчымі працамі да выдання Анталогіі Беларускай Паэзіі, якія вядуцца выдавецтвам „Чытэльнік", выехаў у Мінск польскі літаратурны крытык Земовіт Фэдэцкі. За час свайго знаходжання ў Мінску, сустрэнецца ён з беларускімі пісьменнікамі, з якімі адбудзе рад размоў і кансультацый датычна выбару вершаў беларускіх паэтаў у праектаваную Анталогію.

---

## Планы кінастудыі „Беларусь-Фільм"

Работнікі Беларускай кінастудыі значна пашыраць сёлета сваю дзейнасць па выпуску новых мастацкіх фільмаў.

Зараз вядуцца здымкі фільма „Пасеялі дзяўчаты лён"; у ім будуць паказаны працаўнікі беларускай вёскі, іх барацьба за ўздым сельскай гаспадаркі.

Падзеям Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі прысвячаецца кінокарціна „Пачатак шляху".

Ідзе падрыхтоўка да работы над фільмам „Высокі пост". Гэта твор пра радавога комуніста, старшыню аднаго з калгасаў рэспублікі.

У гэтым годзе таксама будзе зроблена некалькі навукова - папулярных фільмаў

---

## ЛІЧБЫ ПЯЦІГОДКІ

За пятую пяцігодку прамысловая вытворчасць рэспублікі ўзрасла больш чым у два разы і перавысіла даваенны ўзровень у 2,4 разы, а выпрацоўка электраэнергіі — у 3,6 разы. Асабліва паспяхова расло машынабудаванне, якое павялічылася за пяцігодку больш чым у пяць разоў.

З года ў год нарошчваюць свае магутнасці трактарны, аўтамабільны, шарыкападшыпнікавы, станкабудаўнічы, Гомсельмаш і іншыя заводы. Пачалося будаўніцтва завода аўтаматычных ліній, электрашчытаў, радыёдэталяў, сельгасмашын. Уступаюць у лік дзеючых прадпрыемстваў Мінскі завод запасных трактарных дэталяў і першая чарга Мінскага гадзіннікавага завода.

На 89 працэнтаў узрос выпуск тавараў народнага спажывання. Па шостаму пяцігадоваму плану прадугледжан рост валавой прадукцыі прамысловасці БССР у 1,7 раза. У параўнанні з 1955 годам у канцы шостай пяцігодкі заводы Беларусі будуць выпускаць: трактараў больш у 2,7 раза, аўтамабіляў — у 1,6 раза, цэменту — у 1,8 раза, скуранога абутку — у 1,4 раза, цукру — у 31 раза.

У 1955 годзе атрымана больш 70 тысяч тон ільноволакна, больш чым у тры разы супроць 1953 года, адзначан няўхільны рост надою малака, рост грашовых даходаў калгасаў. Усё гэта сведчыць, што сельская гаспадарка знаходзіцца на ўздыме і мае ўсе перспектывы для свайго далейшага росквіту. Калі яшчэ тры гады таму назад калгасаў — мільянераў былі адзінкі, то зараз іх сотні, а даход калгаса „Рассвет" дасягнуў у 1955 годзе 16 млн рублёў, даход калгаса імя БВА — 13 млн.

Усе калгасы Любчаснага раёна — мільянеры. Да гэтага-ж набліжаюцца Давыд-Гарадоцкі, Слуцкі, Глыбоцкі, Талачынскі, Горацкі і многія іншыя раёны.

Значна ўзрос тавараабарот дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю. Рост гэты перавысіў заданні пяцігадовага плана на 23 працэнтаў. Толькі за 1954—55 гады ў рэспубліцы збудавана 1.084 магазінаў і 138 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

Аб росквіце культуры беларускага народа асабліва яскрава сведчыць рост колькасці сярэдніх школ і выпускнікоў з іх. Колькасць школ у вёсцы павялічылася за пятую пяцігодку ў 2,5 разоў, а колькасць выпускнікоў — у 6,9 разоў; у 1950 годзе школы выпусцілі 7:360 чалавек, у 1955 — 51,352 чалавек.

---

## СЕСІЯ ПРЫСВЕЧАНАЯ НАВУКОВАЙ РАБОЦЕ

29 лютага ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя В. І. Леніна закончыла сваю работу сесія, прысвечаная вынікам навукова - даследчай работы за 1955 год і задачам, якія стаяць перад універсітэтам у святле рашэнняў XX з'езда КПСС. Заслухана і абмеркавана каля 120 дакладаў па розных галінах ведаў Многія з іх маюць вялікае тэарэтычнае і практычнае значэнне. Так, напрыклад, прафесар тав Ерафееў зрабіў паведамленне аб работах кафедры хіміі па вывучэнню рэакцый аўтаакіслення і іх значэнні ў тэхніцы, прафесар тав. Паўлючэнка спыніўся на даследаваннях у галіне серанасычэння сталі, прафесар тав. Дарожкін расказаў аб узбуджальніках хвароб кукурузы. На значэнні поўправоднікоў у навуцы і тэхніцы спыніўся дацэнт тав. Некрашэвіч. Гэтае пытанне распрацоўвае група навуковых работнікаў універсітэта. Дацэнт тав. Шкляр далажыў сесіі аб вывучэнні пытання фізіка - геаграфічнага раяніравання Палескай нізіны.

Пытанням карысных выкапняў прысвяцілі свае выступленні прафесар тав. Лукашоў, кандыдаты геолага-мінералагічных навук тт. Драмашко і Карулін, дацэнт тав. Самадураў і іншыя.

На сесіі ўказвалася, што некаторыя вучоныя працуюць бясплодна, без перспектывы, слаба звязаны з вытворчасцю, мала цікавяцца становішчам спраў на прадпрыемствах, у МТС, калгасах. Нізкай яшчэ застаецца якасць падрыхтоўкі маладых навуковых работнікаў.

У прынятых на пасяджэннях секцый рэзалюцыях намечаны практычныя мерапрыемствы па паляпшэнню навукова - даследчай работы кафедраў універсітэта ў святле рашэнняў XX з'езда КПСС.

(БЕЛТА)

